**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 06 (1035) 6 лютага 2020 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

vglybokaye.by

# Вольнае Глыбокае



**У гонар гадавіны пачатку паўстання Кастуся Каліноўскага – апошняга вызвольнага паўстання 19 стагоддзя на тэрыторыі сучаснай Беларусі – каваль з Глыбокага Дзяніс Дубіна ўзяўся выкаваць сапраўдную касу паўстанца.**

***«У розны час даводзілася кавалю станавіцца збройнікам. Жалеза было дарагое, зброю даводзілася рабіць з касаў, з сярпоў», – кажа Дзяніс.***

**Дзяніс Дубіна – сын вядомага каваля Аляксандра Дубіны. Яго бацька ў свой час спрычыніўся да адраджэння кавальскай справы на Глыбоччыне.**

**Дзяніс узгадвае: *«Быў малы, бацька зрабіў кузню. Адразу бегалі, глядзелі ў вокны. Як яно тут што, сабяруцца мужыкі, барадатыя страшныя, і стаяць тут, каля горна».***

**Сёння, як і ў 1863 годзе, у кузні нарадзілася новая зброя касінераў.**

**Паводле рэканструктара Віктара Дудкевіча, каса ў спрытных руках – даволі эфектыўная і зручная зброя.**

***«Першы строй ішоў з ружжамі, другі – з пікамі, а трэці – з косамі. Або маглі змяніцца – першы з ружжамі, потым з косамі, з пікамі», – апісвае тактыку бою Віктар Дудкевіч.***

**І хоць гэткая зброя не была такая ж эфектыўная, як стрэльбы расейскага войска, яна стала сімвалам барацьбы «За нашу і вашу свабоду».**

*Анастасія Русецкая, фота Змітра Лупача.*

## Цікавасць ЗША да Беларусі расце – амерыканскі палітолаг

**Цікавасць ЗША да Беларусі расце, такое меркаванне выказаў амерыканскі палітолаг, дырэктар кансалтынгавай кампаніі Kissinger Associates Томас Грэм у праграме «Контуры» на тэлеканале АНТ 2 лютага, паведамляе БелТА.**

Каменціруючы прыезд у Беларусь дзяржаўнага сакратара ЗША Майкла Пампеа, эксперт нагадаў, што раней з візітам у Беларусі быў Джон Болтан у якасці саветніка Прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы.

*«Гэта паказвае, што цікавасць да Беларусі расце, што мы хацелі б наладжваць нашы адносіны. Таму, я думаю, што ў перспектыве мы будзем мець значна больш цесны і пастаянны кантакт паміж нашымі краінамі. Думаю, што ёсць вельмі шмат пазітыву наперадзе ў нашых адносін»,* – сказаў Томас Грэм.

Цяпер, на думку амерыканскага палітолага, галоўнае пытанне – як наладжваць двухбаковыя адносіны. «Нядаўна дамовіліся аднавіць дыпламатычныя кантакты на ўзроўні паслоў. Гэта крок наперад», – падкрэсліў ён. Да таго ж ёсць эканамічная цікавасць да развіцця кантактаў.

Томас Грэм адзначыў, што некаторы час у Беларусі і ЗША былі складаныя адносіны, не было сур'ёзных кантактаў, аднак цяпер іншая сітуацыя. *«Беларусь стараецца захаваць сваю незалежнасць, мы хацелі б паказаць, што падтрымліваем такую палітыку»,* – дадаў ён.

*БелТА.*

### Вниманию всех желающих граждан и организаций, которые хотят улучшить жилищные условия

В октябре 2019 года началось возведение 60-ти квартирного жилого дома в г.Глубокое, ул.Северная, 39. Многоквартирный дом будет состоять из 30-ти 1-комнатных и 30-и 2-комнатных квартир Сдача в эксплуатацию данного объекта запланирована на июль 2020 года.

Прогнозируемая цена строительства 1 м² – 1 290 Вг.

Стоимость 1-комнатной квартиры – 52 800 Вг, общей площадью 40 м²

Стоимость 2-комнатной квартиры 76 500 Вг, общей площадью 60 м².

Без первоначального взноса. После заключения договора долевого строительства платежи вносятся ежеквартально на специальный счет равномерными долями в течение периода строительства, окончательный расчет в течение 2-х месяцев после ввода дома в эксплуатацию.

Ознакомиться с объектом строительства и получить консультативную помощь можно в государственном предприятии «УКС Глубокского района» по адресу: 211800, ул. Ленина 42, кабинет 35, г. Глубокое, Витебская область,

**Тел.: 8-02156-2-25-92, МТС +375 29 210-07-47.**



ISSN 2077-8023

**Ва ўсіх паштовых аддзяленнях Віцебскай вобласці можна выпісаць газету "Вольнае Глыбокае" на 1-е паўгоддзе 2020 г.**

## Полацкі раён

# У падвешаным стане

■ Станіслаў Раманчук.

**Яшчэ летась напрыканцы года беларускія НПЗ пачалі рыхтавацца да магчымага спынення паставак расійскай нафты.**

Вось і ААТ “Нафтан” у Наваполацку ў снежні знізіў загрузку абсталявання, каб стварыць нейкія запасы сыравіны для далейшай працы ў гэтым годзе. Калі нафта на завод перастала паступаць, то вымушаны быў спыніць вытворчасць і суседні завод “Палімір”, які ўваходзіць у нафтаградзе ў склад гіганта нафтахіміі. Праўда, у суботу вечарам 4 студзеня ўключыліся зноў насосныя агрэгаты і на “Нафтан” да канца дня пракачалі першыя 6 тысяч тон расійскай нафты. Расійская кампанія “Транснафта” пацвердзіла, што атрымала заяўку на пракачку ў гэтым месяцы 133 тысяч тон сыравіны. Вось толькі адзін Наваполацкі нафтаперапрацоўчы завод разлічаны на перапрацоўку штомесяц да мільёна тон нафты. Не надта парадавала калектыў і наступная навіна, што Беларуская нафтавая кампанія закупіла першую партыю нарвежскай нафты аб'ёмам 80 тысяч тон, а за кожную пераплаціла па 20 долараў. Яе хопіць заводу толькі на пару дзён, бо штодзень і патрэбна не меней 25 тысяч тон. Гэту сыравіну, падобную па якасці і тэхнічных характарыстыках на расійскую, пастаўшчыкі даставілі танкерам у літоўскі Клайпедскі порт, а далей у Наваполацк яе прывезлі ў цыстэрнах чыгуначным транспартам. Па разліках, гэтых аб'ёмаў з улікам дадатковых паставак нафты Беларусі з кампаніі расійскага алігарха М. Гуцэрыева хопіць наваполачанам і іх калегам у Мазыры толькі на палову загрузкі магутнасцей абодвух заводаў. Сітуацыя трывожная ўцэлым для Віцебскай вобласці, бюджэт якой сур'ёзна залежыць ад паспяховай дзейнасці “Нафтана”. Суседняя Расія да таго ж не згаджаецца на пастаўкі нафты нам ад іншага беларускага саюзніка – Казахстана.

## Верхнядзвінскі раён

# Возера-забойца

■ Чэслаў Якубовіч.

**У гэтым годзе ў Беларусі ўсталявалася анамальна цёплае надвор'е, а рэкі і азёры так і не пакрыліся льдом.** Такія абставіны засмуцілі шматлікіх аматараў зімовай рыбалкі, але самыя адчайныя з іх знайшлі выхад і сталі выязджаць лавіць рыбу на вадаёмах з лодак. Вось толькі ў адным Верхнядзвінскім раёне меней чым за тыдзень на возеры Асвейскім трагічна загінулі чацвёра рыбакоў. Гэты вадаём плошчай амаль 53 квадратныя км, другі па велічыне ў краіне з глыбінёй да 7,5 метраў – даволі папулярны ў гэтай мясцовасці, бо багаты рыбай. Там можна налавіць багата шчупака, язя, судака, наліма, акунёў і плотак. Аднак сёлета часта былі неспрыяльныя прыродныя ўмовы, бо дзьмуў вецер ураганнай сілы, на вялікім возеры было неспакойна. з-за буйных хваляў. Па гэтай прычыне спачатку на ім утапіліся два рыбакі, а трэцяга выратавалі ад гібелі мясцовыя жыхары. Цела аднаго загінуўшага вадалазам удалося адшукаць, а пошукі другога тапельцы на працягу каля тыдня не завяршыліся поспехам.

Па іроніі лёсу, калі вадалазы шукалі цела памерлага рыбака, за мясцовым востравам на адлегласці 6-7 км ад месца першай трагедыі, пасля абеду зноў перавярнулася лёгкая алюмініевая лодка з двума маладымі мужчынамі. І хоць абодва рыбакі былі ў выратавальных жылетах, у халоднай пастцы адзін з іх да моманту прыбыцця выратавальнікаў ужо быў нежывы. Другога даставілі на бераг, але выратаваць яго пасля моцнага пераахаладжэння арганізма не змаглі. Так недарэчна завяршыўся зямны шлях 28-гадовага міліцыянера і 33-гадовага ўрача-хірурга райбальніцы. У абодвух засталіся сіротамі малыя дзеці. Пасля трагедыі мясцовыя ўлады забаранілі да 1 сакавіка ўвогуле плаваць на лодках на возеры Асвейскім.

## Полацкі раён

# Застануцца толькі апоры

■ Кастусь Александровіч.

**Стратэгічна важнейшымі аб'ектамі года сталі на Віцебшчыне два масты ў буйнейшых гарадах вобласці.**

У абласным цэнтры работы па будаўніцтве Полацкага пуцепровада паблізу чыгуначнага вакзала сталі весці круглыя суткі. Гэту артэрыю плануюць здаць у эксплуатацыю да абласных “Дажынак-2020”, а ў начны час ужо ўзвялі новыя апоры, якія знаходзяцца паміж чыгуначных пуцей. Побач з будучым прыгожым мастом узводзіцца і пешаходны пераход, а будаўнічая пляцоўка займае плошчу 20 гектараў. На аб'екце працуюць звыш 20 бударганізацый з вобласці і Гродна, а асноўныя канструкцыі вагой да 40 тон пастаўляе Фаніпальскі завод жалезабетонных маставых дэталей. Як і віцяблянам, шмат нязручнасцей прынесла жыхарам Полацка і аўтамабілістам закрыццё маста праз Заходнюю Дзвіну даваеннай пабудовы. Людзі занепакоіліся, калі месяц назад работы па рэканструкцыі транспартнай артэрыі спыніліся. Аднак падчас рамонту высветлілася, што ў старажытным горадзе патрабуецца пабудаваць фактычна новы мост, бо адноўлены ў 1965 годзе яго жалезабетонныя і металічныя формы за столькі часу запатрабавалі поўнай замены. Адзінае, што паслужаць далей – вертыкальныя апоры, якія будуць толькі ўзмоцненыя. На гэты мост, дзе праезная частка вырасце да 9 метраў, пойдзе 12 млн. рублёў, а сам капрамонт спадзяюцца завяршыць да канца года.

# У БЕЛАРУСІ НАСТУПІЛІ ЦЯЖКІЯ ЧАСЫ, А СУСЕДНЯЯ УКРАІНА ПЕРААРЫЕНТАВАЛА СВАЮ ЭКАНОМІКУ НА ЕС І ПАКАЗВАЕ БОЛЬШ ВЫСОКІЯ, ЧЫМ У НАС, ТЭМПЫ РОСТУ ВУП



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Краіне патрэбныя сур'ёзныя і няпростыя пераўтварэнні эканомікі і грамадскіх інстытутаў, аднак чым далей яны адкладваюцца і не пачынаюцца, як у той жа Украіне, тым складаней яны пройдуць у жыцці беларусаў**

Беларускае кіраўніцтва ўжо і не хавае, што ў палітычна важны год: прэзідэнцкіх выбараў і з'езда народа – Усебеларускага сходу ў нас могуць пачацца яшчэ больш цяжкія часы. Менавіта ў Маскве назвалі паводзіны А. Лукашэнкі шантажом па нафтавых праблемах і абверглі ідэі прапісаць у Канстытуцыю РФ права беларускіх абласцей далучыцца да Расіі. Аднак праблемы ва ўзаемаадносінах з асноўным саюзнікам нікуды не дзеліся і напрыканцы студзеня беларускі лідар вымушаны быў правесці важную нараду па пытаннях экспарту айчынных нафтапрадуктаў.

Падчас апошняга энергетычнага канфлікту з Крамлём у нашу краіну пачала паступаць нафта з Нарвегіі ў адпаведнасці з ранейшымі даручэннямі главы дзяржавы адшукаць альтэрнатыўныя варыянты паставак “чорнага золата”. На той нарадзе кіраўнік Беларусі заявіў, што мы будзем імкнуцца пастаўляць з расійскага рынку толькі 30-40 % ад неабходных аб'ёмаў нафты. Яшчэ трэць сыравіны павінны завозіць з Балтыкі і столькі ж праз Украіну – гэта праверыны ўжо маршрут. Прэзідэнт абураўся: “странно, наш союзник (Россия) не даёт согласия на поставку нефти от другого нашего союзника (Казахстан)”.

Стала ўсім зразумела, што эканамічныя ўмовы, у якіх беларусам прыходзіцца працаваць, ускладніліся, асабліва на саміх НПЗ у Наваполацку і Мазыры. Уведзены рускімі падатковы манеўр стаў асноўнай прычынай зніжэння даходаў беларускага дзяржбюджэту і фактычна кожнага з нас. Дайшло да таго, што і Літва, калі будзе адпаведная зацікаўленасць, прапанавала альтэрнатывы паставак нам як нафты, так і газу. Аднак на адной непрадказальнай Расіі свет клінам не сышоўся, што з поспехам дэманструе апошнім часам наша паўднёвая суседка Украіна.

Вось ужо шосты год украінцы знаходзяцца ў стане неаб'яўленай гібрыднай вайны з рускімі. Украіна страціла не толькі Крым, але і трэць сваёй тэрыторыі Данбаса, не адну тысячу сваіх ваеннаслужачых і мірных жыхароў. Пры ўсіх вялікіх цяжкасцях і пасля рэзкага падзення аб'ёмаў гандлю з Расіяй украінская эканоміка не рухнула, а наадварот пераарыентавалася на Еўрасаюз і іншыя краіны свету, жыве і развіваецца. За пару гадоў нашы паўднёвыя суседзі ў міжнародным рэйтынгу лёгкасці вядзення бізнесу Doing Bisiness падняліся са 130 на 71-е месца ў свеце, пачалі дэмакратычныя і рынкавыя рэформы.

У выніку, у мінулым 2019 годзе рэальны рост ВУП Украіны дасягнуў 3,5 % ( у нас 1,2 %). Інфляцыя ва украінцаў з самым маладым у Еўропе урадам летась была меней 4 %, што таксама лепшы паказчык, выраслі ў іх сур'ёзна золатавалютныя рэзервы і моцна ўмацавалася нацвалюта. У бліжэйшыя 5 гадоў чакаецца рэкордны прыток інвестыцый ва ўкраінскую эканоміку ў суме 50 млрд. долараў. У Кіеве рашыліся і на зямельную рэформу, на стварэнне ў сваёй краіне рынку зямлі, пытанне якое доўга адкладвалася. І не дзіўна, што цяпер мінімальная зарплата ва Украіне ужо на 25 рублёў апераджае беларускую і дасягнула 400 рублёў ( у нас 375 руб.).

Украінцы ўжо адмаўляюцца ад абавязковага прызыву на ваенную службу на карысць прафесійнай арміі і разлічваюць неўзабаве атрымаць статус партнёра пашыраных магчымасцей НАТО. Нарэшце яны пасля доўгіх перамоў з Крамлём на сваю карысць змаглі заключыць з “Газпрамам” дагавор па транзіце ў ЕС расійскага газу. Нарэшце іх тарыф на перакачку расійскай нафты амаль на 60 цэнтаў даражэйшы і за гэту паслугу яны бяруць ад рускіх цвёрдую валюту, а не драўляныя рускія рублі, як мы. На ўкраінскіх землях іншы мікраклімат і не дзіўна, што ўкраінскі прэзідэнт адхіліў прашэнне прэм'ер-міністра А. Ганчарука аб адстаўцы.

А вось Беларусь цяпер прыціснута сур'ёзна Расіяй, якая патрабуе “паглыбленай інтэграцыі” нават пасля палітычных змен у РФ, а наша прасавецкая мадэль эканомікі практычна выпрацавала сябе. Беларускае кіраўніцтва апынулася перад няпростым выбарам прымаць непапулярныя палітычныя рашэнні, альбо ісці на зацягванне паясоў. У любым выпадку ранейшы вобраз паспяховай беларускай сацыяльнай мадэлі пачаў разбурацца. Ранейшых адносін з “нашай Расіяй” ужо не будзе, эканамічная дапамога і праферэнцыі Беларусі рэзка знізіцца. У Крамлі, будзем казаць шчыра, вельмі незадаволены, што афіцыйны Мінск пачаў нармалізацыю адносін з Захадам і пашырае стратэгічнае партнёрства з Кітаем.

На такім вось фоне прыйшла і прыемная навіна, што пасля невялікай паўзы Беларусь аднавіла экспарт нафтапрадуктаў. Канцэрн “Белнафтахім” анансаваў і хуткія пастаўкі нафты з іншых альтэрнатыўных крыніц. Аднак і беларусам трэба рыхтавацца жыць надалей па сродках. Не выключана, што ў бліжэйшы час у нас могуць павысіцца сур'ёзна цэны на паліва і не на адну капейку, як раней. У няпростай сітуацыі прыйдзецца думаць і аб змяншэнні бюджэтных расходаў. Краіне патрэбныя сур'ёзныя і няпростыя пераўтварэнні эканомікі і грамадскіх інстытутаў, аднак чым далей яны адкладваюцца і не пачынаюцца, як у той жа Украіне, тым складаней яны пройдуць у жыцці беларусаў.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 06.02.20 | | | | Пятніца 07.02.20 | | | | Субота 08.02.20 | | | | Нядзеля 09.02.20 | | | | Пд.10 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -2 | 0 | -3 | -7 | -7 | -6 | -4 | -6 | -6 | -5 | 0 | 0 | 0 | -2 | 0 | 0 | +1 |
| Ціск | 744 | 738 | 742 | 747 | 749 | 751 | 753 | 753 | 753 | 752 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 | 746 | 742 |
| Вецер м/сек | 5 | 7 | 8 | 5 | 5 | 6 | 5 | 2 | 2 | 3 | 3 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 6 |
| | Пд-З | З | Пн | Пн | Пн-З | Пн | Пн | Пн-З | Пн-З | Пд | Пд-З | З | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд |
| Вільготнасць | 86 | 100 | 74 | 84 | 86 | 84 | 72 | 88 | 82 | 99 | 100 | 97 | 97 | 95 | 92 | 97 | 95 |

## Дзень за днём

**Беларусь аднавіла экспарт нафтапрадуктаў, увяла экалагічны падатак на транзіт нафты. У краіне адкрылі 3 новыя радовішчы нафты. Рост цэн летась склаў 4,7 %. Банкі аднавілі выпуск картак плацежнай сістэмы Белкарт. Беларусь выйшла на 4-е месца ў свеце па экспарце сыру. На 15 сакавіка запланавалі Усебеларускі кангрэс за незалежнасць. У Беларусі зацвердзілі план пераходу на экалагічную упакоўку. Падчас чэмпіянату свету па хакеі ў 2021 годзе ўвялі бязвізавы рэжым для грамадзян 44 краін свету. Пры праходжанні тэхагляду кіроўцам адмянілі медыцынскія даведкі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Другі раз у гісторыі РФ урад Д. Мядзведзева ў поўным складзе зышоў у адстаўку, за пару гадзін да гэтага прэзідэнт У. Пуцін прапанаваў унесці змены ў Канстытуцыю.

**ФРГ.** Упершыню за 5 гадоў канцлер А. Меркель наведала Маскву, прэзідэнт РФ У. Пуцін падтрымаў ініцыятывы немцаў па Лівіі, але крызіс ва ўзаемных адносінах захаваўся.

**Украіна.** Юрысты заявілі, што родныя загінуўшых пасажыраў і членаў экіпажа збітага ракетай Ірана самалёта атрымаюць за кожнага мінімум 130 тысяч USD кампенсацыі.

**Расія.** Дырэктар Міжнароднага Інстытута навейшых дзяржаў А. Мартынаў назваў заявы прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі па нафце з РФ "непрыгожымі паводзінамі" і шантажом.

**Літва.** Кампанія Klaipedos nafta згадзілася па просьбе Беларускай нафтавай кампаніі дапамагчы арганізаваць пастаўкі нафты праз нафтатэрмінал мясцовага порта.

**Турцыя.** У краіне вырасла беспрацоўе з-за зацяжнога эканамічнага крызісу, абурэнне туркаў выклікаў рэзкі рост цэн на прадукты, у тым ліку садавіну і гародніну.

**Польшча.** Еўракамісія папрасіла суд ЕС прыпыніць работу дысцыплінарнай палаты Вярхоўнага суда ў Варшаве, суддзі якой прызначаюцца ўказамі прэзідэнта краіны.

**Венесуэла.** Каталіцкія 43 епіскапы запатрабавалі адстаўкі прэзідэнта М. Мадуры, заклікалі правесці чэсныя парламенцкія выбары, а армію - не перашкаджаць переменам.

**Расія.** Унутры РФ, як заявіла расійская актрыса і рэжысёр Ю. Ауг, адбываецца цяпер шмат сумнага і страшнага, бо фарміруецца зноў таталітарная дзяржава, сістэма хлусні.

**Аўстрыя.** Новы ўрад абавязаў супермаркеты бясплатна аддаваць дабрачынным арганізацыям пратэрмінаваныя, але годныя для спажывання бедным прадукты.

**Ізраіль.** Пасля рэйду паліцыя арыштавала ў Іерусаліме 60-гадовага равіна, які прымусова трымаў у рабскіх умовах ізаляцыі каля паўсотні жанчын і дзяцей, прымушаў працаваць.

**Грузія**. Глава анексаванай Расіяй Абхазіі Р. Хаджымба падаў у адстаўку пасля штурма абураных вынікамі выбараў людзей будынка прэзідэнцкай адміністрацыі.

**Ватыкан.** Упершыню ў гісторыі Папа рымскі Францыск прызначыў на пасаду намесніка дзяржсакратара Святога прэстола жанчыну, 66-гадовую Франчэску дзі Джовані.

**Расія.** З-за няпростай эканамічнай сітуацыі і падзення аб'ёмаў прадаж аўто ў РФ аўтаканцэрн Nissan пачаў разглядаць пытанне аб закрыцці завода ў Санкт-Пецербургу.

**Аўстралія.** Вучоныя папярэдзілі, што на аднаўленне экалагічнай сістэмы краіны пасля моцных пажараў, гібелі звыш 1 млрд. жывёлін і 28 чалавек спатрэбіцца стагоддзе.

## Банкі пачалі ўводзіць істотныя змены па растэрміноўцы




■ FINANCE.TUT.BY

**Беларускія банкі пачалі пераглядаць ўмовы для тых, хто хоча купляць тавары ў растэрміноўку.**

У прыватнасці, Прыорбанк скараціў тэрмін, на працягу якога можна не плаціць працэнты за пакупкі, а Беларусбанк перастаў прымаць заяўкі на выдачу растэрміноўкі.

Змены ва ўмовы растэрміноўкі па крэдытных картах Прыёрбанка закрануць як новых кліентаў, так і тых, хто ўжо аформіў картку. Распаўсюджвацца яны будуць на ўсе транзакцыі, дасканалья з 1 лютага. Раней максімальны тэрмін растэрміноўкі складаў 24 месяцы, для тых, хто рабіў пакупкі ў крамах - партнёрах банка, стаўка складала 0,01% гадавых.

- З 1 лютага працэнтная стаўка за растэрміноўку ў памеры 0,01% гадавых будзе прымяняцца толькі на растэрміноўкі тэрмінам да 6 месяцаў уключна, - паведамляюць у банку.

Больш працяглая растэрміноўка будзе каштаваць даражэй: напрыклад, на 8 месяцаў - 4% гадавых, на 10 месяцаў - 5% гадавых, на 12 месяцаў - 6% гадавых.

Сёння ж з сайта Беларусбанка знікла інфармацыя пра крэдыт «Растэрміноўка без пераплаты». Як тлумачаць у кантакт-цэнтры, банк перастаў прымаць заяўкі на гэты прадукт. Пры гэтым у банку па-ранейшаму можна аформіць карту растэрміноўкі «Магніт».

Адзначым, што цяпер карты растэрміноўкі дзейнічаюць у 7 банках, умовы па іх на дадзены момант не перагляdаліся.

Нагадаем, у пачатку года камерцыйныя банкі атрымалі ад Нацбанка ліст, у якім гаварылася, што пры набыцці тавараў або паслуг у растэрміноўку (у тым ліку па картах растэрміноўкі) памер узнагароды, які банкі атрымліваюць ад гандлю, можа перавышаць 30%.

Рэгулятар рэкамендаваў банкам абмяжаваць памер любога ўзнагароджання, якое банк атрымлівае ад гандлю, 4% ад кошту тавару або паслугі, якія набываюцца ў растэрміноўку. Банкі прагназавалі, што тэрмін, на які тавар выдаецца ў растэрміноўку, скароціцца да 3-5 месяцаў. На больш працяглы час расцягваць выплаты банкам будзе не так выгадна.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля заявы Пуціна аб рэферэндуме змен у Канстытуцыю РФ, як заявіў палітолаг А. Шрайбман, Беларусі можна выдыхнуць, аб'яднання з Расіяй не будзе, ціск застанецца.

**Мазыр.** Спыненне паставак расійскай нафты, як папярэдзіў эксперт Д. Крук, можа стварыць Беларусі праблемы, бо нашы нафтапрадукты ў ЕС – трэць беларускага экспарту.

**Мінск.** Як бы хто не скавытаў, як заявіў А. Лукашэнка, але прынцыпы дзяржаўнай эканамічнай палітыкі застануцца нязменнымі, злому існуючай палітыкі не будзе.

**Брэст.** На працягу чатырох дзён падчас нафтавага канфлікту з Расіяй Беларусь праводзіла рамонт на ўчастку нафтаправода "Дружба" Мазыр-Брэст-3 і спыніла пракачку нафты.

**Гомель.** Рамонт "Дружбы" як пацвердзіла эксперт Т. Манёнак, выкліканы імкненнем збіць цану на рускую нафту, але бітва з яе кампаніямі наўрад ці стане для нас пераможнай.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі папярэдзіў, што Крэмль не супакоіцца, варыянт паглынання Беларусі застаецца, бо ён лічыць беларускую незалежнасць недарэчнай.

**Салігорск.** На тэрмін 5 гадоў Еўразійскі банк развіцця выдзеліў "Беларуськаліо" крэдыт на 400 млн. USD на тэхнічнае пераўзбраенне і папаўненне абаротных сродкаў.

**Гомель.** Міністр фінансаў М. Ермаловіч пацвердзіў, што экалагічны падатак на транзіт нафты не датычыць Расіі, закране "Гомельтранснафту Дружба" і яшчэ адну фірму.

**Гродна.** Вечарам у вёсцы Чахаўшчызна паблізу горада кілер застрэліў у машыне 55-гадовага бізнесмена, уладальніка пальчаткавай фабрыкі "Акцэнт" А. Прасняка.

**Дзяржынск.** Райбальніца падала ў суд на лідара кампаніі "Гавары праўду" А. Дзмітрыева за фота абедаў пацыентаў, якія ён паказаў на тэлевыступленні падчас выбараў.

**Калінкавічы.** Гомельскі абласны суд пакараў вялікімі турэмнымі тэрмінамі да 25 гадоў траіх маладых жыхароў вёскі Юравічы за забойства, згвалтаванне, крадзяжы і бойкі.

**Брэст.** Суд прысудзіў 11 гадоў зняволення 29-гадоваму жыхару Кобрынскага раёна, які вывез з горада ў багажніку легкавога аўтамабіля дзяўчыну і збіў яе бітай.

**Вілейка.** За незаконны вылаў на мясцовым водасховішчы 176 кг рыбы суд у Маладзечне адправіў у турму на 2 гады раней судзімага браканьера, якога затрымалі паўторна.

**Добруш.** Раніцай з акна кабінета 4-га паверха мясцовага політэхнічнага ліцэя выпаў намеснік дырэктара, педагог застаўся жывы і з цяжкімі траўмамі патрапіў у рэанімацыю.

**Брэст.** Ва ўсіх кутках краіны ў сярэдзіне зімы былі пабіты тэмпературныя рэкорды цяпла, у горадзе паветра прагрэлася да 8,1 градуса, такога не было ніколі за гады назіранняў.

**Магілёў.** Па распараджэнні главы вобласці стварылі новую футбольную каманду ФК "Днепр" з выхаванцаў дзвюх ДЮСШ, яна пачне сезон у 2-й лізе чэмпіянату Беларусі.

## Беларусь лідзіруе ў Еўропе па таннасці паліва, але не па даступнасці для насельніцтва

Рэйтынг даступнасці паліва (колькасці, якую можна купіць на сярэднюю зарплату) узначальвае Люксембург. Жыхары гэтага герцагства могуць набыць на сваё сярэдняе зарплаты каля 2,8 тысячы літраў бензіну. Другое месца заняла Нарвегія з 2,2 тысячамі літраў. У першую пяцёрку таксама ўваходзяць Аўстрыя, Ірландыя і Вялікабрытанія. Жыхары гэтых краін могуць набыць на сваe сярэднямесячныя заробкі больш за 1,9 тысячы літраў 95-га.

Расія з 884 літрамі — на 17 месцы. Апошняе, 32-е месца, па даступнасці бензіну для насельніцтва заняла Украіна (311 літраў). Беларусь займае 29-е месца (550 літраў). Аўтсайдэрамі таксама сталі Балгарыя, Латвія, Славакія і Літва.

***Паводле NN.by***

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Падчас веснавой сяўбы ў вобласці пасеяць 255 тысяч гектараў зерневых, 75 тыс. га – зернебабовых, 120 тыс. га – кукурузы і 52 тыс. га рапсу, запас насення створаны.

**Орша.** Падчас выязной нарады глава вобласці М. Шарстнёў заявіў, што сёлета запланавана рэканструкцыя 180 старых жывёлагадоўчых памяшканняў і ферм.

**Сянно.** Эканамічны суд вобласці распачаў справу аб банкруцтве мясцовага райаграсервіса з даўгамі амаль 10 млн. долараў, у яго не засталося абаротных сродкаў.

**Мёры.** Два вальшчыкі стана халоднай пракаткі завода бляхі А. Ралавец і Я. Жвірбля сталі пераможцамі конкурсу прафесійнага майстэрства падчас стажыроўкі ў Магнітагорску.

**Полацк.** Мясцовы малочны камбінат заваяваў дыплом "Стабільная якасць" за перамогі 5 разоў запар ў рэспубліканскіх конкурсах "Лепшая прадукцыя года" і "Чэмпіён смаку".

**Віцебск.** На прыпынку ля чыгуначнага вакзала і аўтавакзала РУП "Віцебскэнерга" ўстанавіла 10-ю па ліку ў горадзе станцыю для зарадкі электрааўтамабіляў.

**Браслаў.** Міністэрства аховы здароўя Беларусі купіла для райбальніцы новы камп'ютарны тамограф коштам 800 тыс. рублёў, для работы на ім прайшлі падрыхтоўку два ўрачы.

**Гарадок.** Ноччу ў аграгарадку Лесагорская двое мясцовых мярзотнікаў ва ўзросце 18 і 19 гадоў абакралі, а потым падпалілі жылы дом, каб схаваць сляды свайго злачынства.

**Полацк.** У мясцовым Цэнтры культуры епіскап Полацкі і Глыбоцкі Ігнацій адкрыў традыцыйны ўрачысты Калядны вечар-сустрэчу прадстаўнікоў з 10 раёнаў вобласці.

**Бягомль.** Жыхар Барысаўскага раёна перадаў на захоўванне ў мясцовы музей народнай славы 19 манет з гербам Рэчы Паспалітай, якія ён знайшоў, збіраючы грыбы ў лесе.

**Глыбокае.** Супраць 40-гадовай жыхаркі райцэнтра распачалі крымінальную спарву за махлярства, яна атрымоўвала дапамогу за страту кармільца, хоць ведала, што муж жывы.

**Верхнядзвінск.** Днём на возеры Асвейскім перакулілася лодка з людзьмі, двое чалавек загінулі, мясцовыя жыхары выратавалі 36-гадовага мужчыну, якога шпіталізавалі.

**Докшыцы.** Вечарам падчас узнікшага пажару ва ўласным доме ў райцэнтры трагічна загінула 55-гадовая жанчына, інвалід па зроку, яе труп знайшлі ў адным з пакояў.

**Паставы.** Выкладчыкі дзяцячай школы мастацтваў імя А. Ромера стварылі для малых дзяцей (6-8 год) студыю выхаднога дня "Акварэлька" са спецыяльным гульнявым ухілам.

**Гарадок.** Міліцыя затрымала 52-гадовага беспрацоўнага з раённага цэнтра, які, каб апахмяліцца, украў у свайго знаёмага антыкварны самавар на вуглях і прадаў яго за 15 рублёў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Каманда падлеткаў, у дачыненні якіх праводзіцца індывідуальная прафілактычная работа, прыняла ўдзел у 1-ым этапе абласных спаборніцтваў па міні-футболе




**Глыбоцкія падлеткі на спаборніцтвах па міні-футболе ў г. Полацк.**

**Вадзім Кучыц,**
*начальнік ІСН МАБ Глыбоцкага РАУС маёр міліцыі.*

З мэтай павышэння фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай работы з дзецьмі і падлеткамі, у дачыненні да якіх праводзіцца індывідуальна-прафілактычная праца, а таксама прапаганды здаровага ладу жыцця, умацавання здароўя, фарміравання правапаслухмяных паводзін, арганізацыі актыўнага адпачынку дзяцей і падлеткаў, садзейнічанне інтэлектуальнаму, духоўнаму і маральнаму развіццю дзяцей, выхаванню пачуцця патрыятызму, якое з'яўляюцца дастаткова важнымі ў выхаванні падрастаючага пакалення, каманда падлеткаў, у дачыненні да якіх інспекцыяй па справах непаўналетніх міліцыі грамадскай бяспекі аддзела ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама праводзіцца індывідуальная прафілактычная праца, на чале з прадстаўніком каманды начальнікам ІСН МОБ Глыбоцкага РАУС маёрам міліцыі Вадзімам Міхайлавічам Кучыцам прыняла ўдзел у 1-ым этапе абласных спаборніцтваў па міні-футболе сярод дзяцей і падлеткаў, у дачыненні да якіх праводзіцца індывідуальная прафілактычная работа «На шляху да поспеху», якое прайшло 28 студзеня на базе ГСУСУ «Віцебскі абласны цэнтр алімпійскага рэзерву па вяслярных відах спорту» ў г. Полацку.

Нашу каманду прадстаўлялі 8 падлеткаў: навучэнцы УА «Глыбоцкі дзяржпрафліцэй»: варатар – Віталь Парфяновіч, нападаючыя – Дзмітрый Французаў, Сяргей Герлінскі, Кірыл Голуб, абаронцы – Віктар Цімашэнка, Андрэй Бартко; навучэнец ДУА «Азярэцкая дзіцячы сад – сярэдняя школа» Сяргей Ляшкевіч, навучэнец ДУА «Шунеўская дзіцячы сад – базавая школа» Аляксей Садоўскі.

У напружанай барацьбе з камандамі г. Полацка, г. Наваполацка, Пастаўскага, Верхнядзвінскага раёнаў каманда нашых хлопцаў заняла ганаровае другое месца, саступіўшы толькі камандзе г. Наваполацка. Такому выніку каманда павінна быць удзячная не толькі сваім стараннем і імкненню да перамогі, але і тым, хто іх падрыхтаваў да спаборніцтваў: трэнеру каманды, Сяргею Уладзіміравічу Белячэнку, педагогу-псіхолагу ДУА «Сацыяльна-педагагічны цэнтр Глыбоцкага раёна» Марыне Віталье́ўне Кірылавай.

Наперадзе ў падлеткаў нашага раёна ўдзел у фінальных спаборніцтвах па міні-футболе ў г. Віцебску, якія пройдуць 4 лютага 2020 года на спартыўнай базе факультэта фізічнай культуры і спорту ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава».

Жадаем нашым хлопцам удачы і перамогі.

Інфармацыя па прафілактыцы правапарушэнняў і злачынстваў непаўналетніх размешчана ў афіцыйнай групе «ІСН Глыбоцкага РАУС» **(https://vk.com/club159236466)** у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте» сетцы Інтэрнэт.

# У Глыбоцкім раёне актуальна праблема гібелі людзей ад знешніх фактараў

**Валерый Дайлідзёнак,**
*намеснік пракурора Глыбоцкага раёна.*

**Нягледзячы на прымаемыя меры ў Глыбоцкім раёне застаецца актуальнай праблема гібелі людзей ад знешніх фактараў.**

Так, у раёне застаецца складанай сітуацыя з гібеллю людзей на вытворчасці. Усяго за 12 месяцаў 2019 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 7 (у 2018 годзе – 7) няшчасных выпадкаў на вытворчасці, 2 (1) з якіх ставяцца да разраду смяротных.

У прыватнасці, у мінулым годзе на тэрыторыі раёна зарэгістраваны наступныя няшчасныя выпадкі на вытворчасці, што пацягнулі смерць работнікаў.

У сакавіку 2019 года ў ААТ «Залатая падкова» адбыўся смяротны няшчасны выпадак з брыгадзірам вытворчай брыгады ў жывёлагадоўлі на тэрыторыі МТФ «Бабічы» ў выніку наезду на пацярпелую шасі пагрузачна шматфункцыянальнага «Амкадор 332С-4», кіраванага трактарыстам-машыністам сельскагаспадарчай вытворчасці, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Па дадзеным факце Глыбоцкім РАСК у дачыненні да механізатара была ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 144 КК Рэспублікі Беларусь (Прычыненне смерці па неасцярожнасці), якое разгледжана судом Глыбоцкага раёна 10.06.2019 з вынясеннем абвінаваўчага прысуду.

У пачатку жніўня 2019 пры вытворчасці лесасечных работ на суцэльнай рубцы галоўнага карыстання ў выніку траўміравання запалым дрэвам, спіленым іншым вальшчыкам, адбыўся смяротны няшчасны выпадак з вальшчыкам лесу ДЛГУ «Глыбоцкі вопытны лясгас». Прычынай гэтага няшчаснага выпадку стала парушэнне правілаў бяспекі самім пацярпелым.

Прынятыя ў мінулым годзе меры не дазволілі таксама паменшыць колькасць пажараў і загінулых у іх грамадзян.

Так, за 12 месяцаў 2019 года на тэрыторыі раёна адбылося 37 пажараў, што на 2 больш, чым у 2018 годзе. На пажарах у 2019 годзе загінула 6 чалавек (2). Пры гэтым смерць 6 грамадзян у мінулым годзе адбылася ў выніку 5 пажараў. 5 з 6 загінулых знаходзіліся на момант узнікнення пажару ў стане алкагольнага ап'янення. Ва ўсіх выпадках прычынай пажараў стала неасцярожнае абыходжанне загінулых з агнём пры курэнні.

Таксама ў мінулым годзе адбыўся рост колькасці загінуўшых у выніку дарожна-транспартных здарэнняў. Так, у 2019 годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 3 (1) ДТЗ, у выніку якіх 4 (1) чалавекі загінулі. Прычынай усіх ДТЗ, у якіх загінулі людзі, стаў няправільны выбар хуткасці руху кіроўцам транспартнага сродку. Акрамя таго, 1 загінулы кіроўца ў момант ДТЗ знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

З 4 да 5 павялічылася ў 2019 годзе колькасць зарэгістраваных фактаў смерці грамадзян у выніку ўтаплення. Пры гэтым 2 патанулых знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. Прычынамі ўтаплення ў 2019 годзе з'явіліся: няшчасны выпадак – 2, стан алкагольнага ап'янення – 3. Пры гэтым у перыяд актыўнага купальнага сезон на тэрыторыі раёна зарэгістраваны 1 факт гібелі грамадзяніна ў выніку ўтаплення.

У мінулым годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 4 (4) факты гібелі грамадзян у выніку іх атручвання этылавым спіртам, 1 (0) - ад атручвання сурагатамі алкаголю (ужыванне вадкасці шклоамывальніка для аўто ў якасці алкагольнага напою).

Акрамя таго, у 2019 годзе на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 1 (3) забойства. Забойства адбылося ў в. Кішы Глыбоцкага раёна, прычынай яго стала бытавое п'янства. Вінаватая ў здзяйсненні злачынства асоба асуджаная.

**У Еўрасаюзе запусцілі інавацыйную праграму Гарызонт-2020 для даследавання каронавіруса.**

Улады Еўразвяза вылучылі экстранае фінансаванне ў 10 млн еўра для даследавання каронавіруса і метадаў процідзеяння яго распаўсюджванню. Аб гэтым сказала на брыфінгу

# ЕС выдзеліў 10 млн. еўра на даследаванне каронавіруса

ў Брусэлі афіцыйны прадстаўнік Еўракамісіі Дана Спінант, паведамляе ТАСС у пятніцу, 31 студзеня.

Напярэдадні Сусветная арганізацыя аховы здароўя прызнала выбліск каронавіруса 2019-nCoV надзвычайнай сітуацыяй, якая мае міжнароднае значэнне.

Па апошніх дадзеных (02.02), ахвярамі каронавіруса ў Кітаі сталі ўжо 213 чалавек, колькасць людзей, якія заразіліся, дасягнула 9356 чалавек.

*telegram.by*

# Легкавік уляцеў пад фуру ў Докшыцкім раёне



**Лабавое сутыкненне «Mitsubishi Lancer» і «Mercedes-Benz Actros» адбылося непадалёк ад Бягомля ў Докшыцкім раёне.** *Фота МНС.*

Лабавое сутыкненне «Mitsubishi Lancer» і «Mercedes-Benz Actros» адбылося непадалёк ад Бягомля ў Докшыцкім раёне, кіроўца легкавушкі дэблакавалі ратавальнікі.

Легкавы аўтамабіль і седлавы цягач з паўпрычэпам сутыкнуліся 31 студзеня каля 3:50. 39-гадовы жыхар Віцебска, які кіраваў фурай, змог пакінуць кабіну самастойна, а вось 26-гадовы кіроўца легкавушкі апынуўся заблакаваным у салоне пакарабачанага аўто.

Ратавальнікі пры дапамозе гідраўлічнага аварыйна-выратавальнага інструмента дасталі яго з разбітай машыны. Хлопец атрымаў сур'ёзныя траўмы, і яго давялося шпіталізаваць у бальніцу, пра гэта паведамілі ў прэс-службе МНС.

*Прэс-служба МНС.*

# Хакеры заблакавалі камп'ютар бухгалтэрыі Глыбоцкай ПМК, яны патрабавалі 15 000 за разблакіроўку

**Кампутар бухгалтэрыі дзяржаўнага прадпрыемства «Глыбоцкая ПМК меліаводгас» заблакаваны невядомымі зламыснікамі.**

У міліцыю звярнуўся дырэктар арганізацыі, які заявіў, што кампутар бухгалтэрыі быў заблакаваны невядомымі людзьмі, якія запатрабавалі 15 000 рублёў для разблакоўкі.

Цяпер праваахоўныя органы праводзяць праверку, паведаміў начальнік штаба РАУС А. Майсяёнак.

*ННВ.*

# Ім было складана зразумець, чаму судзяць за праўду журналіста

## У Глыбокім ізноў судзілі Змітра Лупача

**У Глыбокім адбыўся суд над Змітром Лупачам за супрацу з тэлеканалам "Белсат" без акрэдытацыі.**

Але гэтым разам штраф незалежнаму журналісту не прысудзілі, бо справу суддзя Станіслаў Трапук адправіў у міліцыю на дапрацоўку.

Як сказаў суддзя, па прычыне немагчымай устаноўкі дакладнай даты адміністрацыйнага праваапарушэння.

Як кажа незалежны журналіст Зміцер Лупач, у яго было спадзяванне на тое, што суд 27 студзеня скончыцца менавіта так:

*– Надзея была, бо ведаючы, хто будзе судзіць, і прачытаўшы рапарт, ведаў, што дата дакладна не тая. Бо я ў пятніцу пазнаёміўся са справай.*

Падчас працэсу незалежны журналіст падаваў шмат хадайніцтваў, частка з якіх была задаволеная судом, у тым ліку выклікаць як сведку праваабаронцу Паўла Левінава. Хоць на пачатку было адхілена хадайніцтва, каб ён прадстаўляў інтарэсы Змітра як спецыяліст.

Кажа Павел Левінаў: *– Выступаючы ў якасці сведкі, я выклаў пазіцыю нормаў права, але больш за ўсё мяне ўразіла рэпліка суддзі, што, аказваецца, не ён вырашае гэтыя справы, а паказаў пальцам уверх – вырашаюць "наверсе", а тут толькі выконваюць.*




*Таму, каб пачуць такое прызнанне, няхай і па-за межамі судовага пасяджэння, дзеля гэтага варта было прыехаць.*

На суд былі выкліканыя і пенсіянеркі з мястэчка Падсвілле, якія трапілі ў сюжэт "Белсата" і скардзіліся журналісту на праблемы з утрыманнем свайго дома мясцовай ЖКГ.

Яны не вельмі добра пачувалі сябе ў судзе, нават некаторым рабілася блага. Ім было складана зразумець, чаму судзяць за праўду журналіста. Таксама Змітра Лупача прыехалі падтрымаць праваабаронцы з Віцебска і прыйшлі мясцовыя журналісты.

***Таццяна Смоткіна, Беларускае Радыё Рацыя***

# Сярэднегадавая тэмпература паветра ў Беларусі за 10 гадоў павялічылася на 0,5 градуса. Гэта выклікала рост колькасці шкоднікаў



**Клімат Беларусі змяняецца, сярэднегадавая тэмпература паветра за 10 гадоў павялічылася на 0,5 градуса. Расце рызыка экстрэмальных з'яў надвор'я. Пра гэта сёння паведаміў дырэктар Інстытута прыродакарыстання НАН Беларусі доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Сяргей Лысенка, піша БелТА.**

"Асабліва хутка адбываецца рост гадовай тэмпературы. Актыўна ідзе пацяпленне на паўднёвым усходзе Беларусі. Можна заўважыць, што колькасць ападкаў у студзені-лютым павялічваецца. Гэта больш адчувальна ў паўночных рэгіёнах краіны", — распавёў Сяргей Лысенка.

У такім змене клімату ёсць як плюсы, так і мінусы. «Узімку будуць змяншацца затраты на ацяпленне, пацяпленне аказвае спрыяльныя ўмовы для развіцця транспартнай інфраструктуры, за выключэннем рачнога транспарту, таму што ў далейшым абмяленні рэк стануць частай з'явай», — растлумачыў Сяргей Лысенка. Пацяпленне адаб'ецца станоўча і на сельскай гаспадарцы. На поўначы Беларусі нізкія тэмпературы заўсёды абмяжоўвалі развіццё земляробства. На поўдні будзе магчымасць вырошчваць больш персікаў, абрыкосаў і іншых культур. Узмацніць станоўчы эфект дазволяць адаптацыйныя мерапрыемствы.

«Ёсць і адмоўныя бакі. Расце колькасць экстрэмальных з'яў надвор'я, павялічваецца верагоднасць замаразкаў і засух. Існуе меркаванне, што з ростам тэмператур павялічваецца зменлівасць метэаэлементаў. Напрыклад, рост тэмпературы паветра не выключае наступлення максімальна халодных тэмператур», — канстатаваў дырэктар інстытута.

Змяненне клімату пацягнула за сабой павелічэнне колькасці насякомых-шкоднікаў у сельскай гаспадарцы. Пра гэта паведаміла намеснік дырэктара па навуцы Інстытута аховы раслін НАН Беларусі Алена Якімовіч.

*Паводле БелТА.*

# Беларускія банкі ўводзяць «драконаўскія» камісіі за плацяжы гатоўкай у касах

**Калі аплачваць электрычнасць, плаціць паводле жыроўкі і «закінуць» грошы на тэлефон, то давядзецца заплаціць 15 рублёў.**

Некаторыя банкі пераглядаюць камісію за прыём плацяжоў гатоўкай у касах. Сёлета гэта зрабілі БПС-Сбербанк і Парытэтбанк. Перагледзеў сёлета збор узнагароджанняў за аперацыі фізічных асобаў таксама і Беларусбанк.

БПС-Сбербанк з 20 студзеня павысіў камісію за прыём гатовых грошай і здзяйсненне аперацыі паводле банкаўскай аплатнай карткі ў касе банка паводле плацяжоў на карысць вытворцы паслуг з 3 да 5 рублёў. Узнагароджанне спаганяецца за кожны плацёж. Прасцей кажучы, калі аплачваць электрычнасць, плаціць паводле жыроўкі і «закінуць» грошы на мабільны тэлефон, то давядзецца заплаціць камісію 15 рублёў.

«Узнагароджанне не спаганяецца за аперацыі прыёму гатовых грашовых сродкаў, пры здзяйсненні аперацый паводле банкаўскай аплатнай карткі ў касе банка за прамыя дамовы, заключаныя паміж банкам і вытворцамі паслуг, разавыя плацяжы, пры выплаце падаткаў, збораў (мытаў) і іншых абавязковых плацяжоў у рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты, дзяржаўныя мэтавыя бюджэтныя фонды і Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, а таксама страхавых плацяжоў на карысць страхавых арганізацый», – адзначаюць у банку.

Парытэтбанк з 10 студзеня ўвёў камісію за прыём і пералічэнне гатовых грашовых сродкаў на ўсіх касах паводле плацяжоў на карысць вытворцаў паслуг – удзельнікаў АРІП. За кожны плацёж трэба заплаціць 2 рублі. Раней гэтую камісію спаганялі не ва ўсіх касах банка. Не трэба плаціць камісію пры здзяйсненні плацяжоў у дзяржбюджэт – падаткаў, збораў, мытаў, штрафаў.

Гэты банк таксама ўвёў камісію з 10 студзеня за выдачу ў касах гатоўкі паводле картак плацежных сістэмаў Visa International, Mastercard і плацежнай сістэмы БелКарт, эмітаваных іншымі банкамі. Узнагароджанне банка складзе 2,5% ад сумы (мінімум 2 рублі). Пры гэтым у плату не ўключаная камісія банка-эмітэнта за аперацыю зняцця наяўных.

Беларусбанк таксама сёлета перагледзеў збор узнагароджанняў за аперацыі фізічных асобаў. Дапаўненні і змены пачалі дзеянне з 15 студзеня 2020 года. У абноўленым зборы камісія за прыём гатовых грашовых сродкаў (здзяйсненне аперацыі паводле банкаўскай аплатнай карткі) у касе банка ў плацяжах на карысць вытворцаў паслуг складае 2 рублі за кожны плацёж. «Узнагароджанне выплачвае фізічная асоба (спаганяецца з рахунку) у выпадку адсутнасці паслугі ў дрэве паслуг АРІП», – гаворыцца на сайце банка.



Нагадаем, Беларусбанк з 1 кастрычніка 2018 года ўвёў камісію за прыём некаторых плацяжоў гатоўкай у касах – 1 рубель. Камісія спаганяецца за кожны плацёж у касе банка, у тым ліку за навучанне, паркоўку, інтэрнэт-паслугі.

Беларусбанк раней анансаваў увядзенне платы за аперацыі з гатоўкай у касах банка з 1 жніўня 2016 года. Потым тэрмін з'яўлення адмысловай камісіі перанеслі на 1 кастрычніка 2016 года, а пазней гэтую пастанову і зусім скасавалі.

*tut. by.*

# Запазычанасць беларусаў па банкаўскіх крэдытах павялічылася да 14 млрд. рублёў

**Па дадзеных Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, на пачатак 2020 года фізічныя асобы завінавацілiся банкам 14,15 млрд рублёў.**

Так, за фінансаванне жылой нерухомасці запазычанасць вырасла на 19,9% (8,57 млрд. рублёў), а доўг за спажывецкія крэдыты павялічыўся на 25% (5,48 млрд рублёў). На пашыраным пасяджэнні праўлення Нацбанка, якое праводзілася на мінулым тыдні, было сказана, што ў 2019 годзе тэмп росту крэдытавання насельніцтва запаволіўся, па параўнанні з 2018 годам.

«Для процідзеяння патэнцыйным рызыкам Нацыянальным банкам уведзеныя макрапрудэнцыйныя інструменты, накіраваныя на запаволенне празмернага росту крэдытавання насельніцтва. Гэта паказчыкі забяспечанасці крэдыту і пазыковай нагрузкі», — распавёў намеснік старшыні Нацбанка Дзмітрый Калечыц падчас выступу на пашыраным пасяджэнні праўлення Нацбанка.

У 2018 годзе Нацбанк «увёў паказчык пазыковай нагрузкі, згодна з якім банкі павінны абмяжоўваць выдачу крэдытаў фізічным асобам, чые штомесячныя фінансавыя абавязацельствы перавышаюць 40% сярэднямесячнага даходу». А ў 2019 годзе былі ўведзеныя дадатковыя патрабаванні, якія павінны ўлічвацца банкамі на этапе разгляду заявак ад фізічных асоб на атрыманне спажывецкіх крэдытаў. «У прыватнасці, банкі павінны разлічваць паказчык пазыковай нагрузкі з улікам запазычанасці насельніцтва, якая сфармавалася ў грамадзян у сувязі з куплёй тавараў з дапамогай карт растэрміновак».

*naviny.by*

